**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 26 (847) 30 чэрвеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by

**Купалле ў Мосары.**
*Фота Змітра Лупача.*



**Адпустовая ўрачыстасць у мосарскай парафіі святой Ганны ў гонар святога Яна адбылася 25 – 26 чэрвеня. Прысутнічаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. А Купалле працягвалася ў Мосары да позняй ночы.** *Працяг тэмы на стар. 5*

## Беларуская вышыванка стане мастацкай дамінантай мерапрыемстваў да Дня Незалежнасці

Беларуская вышыванка стане мастацкай дамінантай мерапрыемстваў да Дня Незалежнасці, паведаміла на прэс-канферэнцыі начальнік кіравання мастацтваў Міністэрства культуры Мар'яна Мікалаева, перадае карэспандэнт БелТА.

"Агульнай мастацкай дамінантай, якая аб'ядноўвае культурныя мерапрыемствы з 1 па 3 ліпеня, стане тэма вышыванкі, якая з'яўляецца знакам і своеасаблівым засцярогам для беларусаў", - сказала Мар'яна Мікалаева. Гэта, у прыватнасці, знойдзе адлюстраванне ў друкаванай прадукцыі.

2 ліпеня пройдзе моладзевае свята "Дзень вышыванкі".

***БелТА***

## У Беларусі базавая велічыня складзе 21 рубель

**Базавая велічыня пастановай Савета міністраў Беларусі ад 27 чэрвеня №496 пасля дэнамінацыі ўсталявана ў памеры 21 рубель. Цяпер яна складае 210 тыс. рублёў, нагадалі ва ўрадзе.**

Таксама ўрадам усталяваны памеры мінімальнай заработнай платы (МЗП), тарыфнай стаўкі першага разраду і дыферэнцыяваных даплат, якія будуць дзейнічаць з 1 ліпеня.

Так, памер месячнай мінімальнай заработнай платы складзе 230 рублёў, тарыфнай стаўкі першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый, – 29,8 рубля, штомесячныя дыферэнцыяваныя даплаты працаўнікам бюджэтных арганізацый, тарыфікавальным 1-17 разрадамі, – у дыяпазоне ад 8,6 да 7,5 рублёў.

***telegraf.by***

## У Беларусі на 100 вакансій даводзіцца 145 беспрацоўных

**Колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у дзяржслужбе занятасці, на канец траўня 2016 года склала 50,5 тыс. чалавек - на 12,9% больш, чым на канец траўня 2015 гады і на 6,1% менш, чым на канец красавіка 2016 года.**

У Беларусі на 100 заяўленых наймальнікамі вакансій на 1 чэрвеня бягучага года даводзілася 145 беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне (на 1 чэрвеня мінулага года - 173 чалавека). Такія дадзеныя змесцаваны на сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэта, паведамляе БелТА.

Колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у дзяржслужбе занятасці, на канец траўня 2016 года склала 50,5 тыс. чалавек - на 12,9% больш, чым на канец траўня 2015 гады і на 6,1% менш, чым на канец красавіка 2016 гады. Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец траўня бягучага года склаў 1,1% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец траўня мінулага года - 1%).

У студзені-траўні на ўлік было пастаўлена 99 тыс. чалавек, якія звярнуліся за дапамогай у працаўладкаванні, з іх прызнана беспрацоўнымі 75,7 тыс. чалавек, ці 76,4% ад ліку якія звярнуліся. Аказана садзейнічанне ў працаўладкаванні 54,8 тыс. чалавек, у тым ліку 42,8 тыс. беспрацоўных, ці 78,2% ад ліку ўсіх працаўладкаваных.

На канец траўня цяперашняга года ў агульнай колькасці зарэгістраваных беспрацоўных жанчыны складалі 31%.

***БелТА.***

ISSN 2077-8023



Пастаўскі раён

# Поле аддзячыць дбайных

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе з-за зацяжных праліўных дажджоў і пераўвільготненых палеткаў шмат дзе на захадзе вобласці зацягнулася веснавая сяўба.**

З такімі цяжкасці сутыкнуліся і ў вядучай гаспадарцы Пастаўскага раёна "Хацілы-агра", якая спецыялізуецца менавіта на вырошчванні элітнага насення. У адрозненне ад суседзяў, у гэтым прыгарадным сельгаспрадпрыемстве ёсць усё для паспяховай дзейнасці: сапраўдныя кадры, тэхніка, паліва, а азімыя і кармавыя ўгоддзі нават двойчы падкармілі. Касавіцу сёлета пачалі на 4-5 дзён раней звычайных тэрмінаў і адразу выйшлі на аптымальныя тэмпы выпрацоўкі. Крыху болей чым за тыдзень працы ў полі працаўнікі гаспадаркі скасілі травы больш чым на палове адведзеных сенажацей, на 730 гектарах. Добрая арганізацыя нарыхтоўкі кармоў пры захаванні патрабуемых тэхналогій дазволіла запаўняць сенажныя траншэі емкасцю больш тысячы тон меней чым за трое сутак. Займаліся цыклам нарыхтоўкі травяністых кармоў толькі 25 механізатараў і ў сучаснай упакоўцы нарыхтавалі іх за тыдзень тысячу тон. Пасля прайшоўшых неўзабаве летніх ліўняў тут разлічваюць і на другі багаты ўкос траў. Добрая кармавая база дазваляе гаспадарцы паблізу райцэнтра быць адной з лепшых на Віцебшчыне па вытворчасці малака. Па выніках працы ў маі акрамя мясцовай рабатызаванай фермы "Волахі" пераможцам абласнога спаборніцтва стала яшчэ адна вядомая гаспадарка Пастаўчыны "Навасёлкі-Лучай", дзе таксама сёлета зялёны канвеер працуе зладжана і арганізавана.

Полацкі раён

# Можна толькі загараць

■ Чэслаў Якубовіч.

**Масавы купальны сезон сёлета на Віцебшчыне пачаўся крыху са спазненнем з-за пахаладання ў пачатку чэрвеня.**

У цэлым па вобласці ў гэтым годзе вызначылі 129 зон масавага адпачынку на вадзе, на адну меней, чым раней. Да засмучэння жахароў Полацка з гэтага спісу выключылі, верагодна з-за якасці вады, улюбёны многімі гараджанамі пляж на левым беразе ракі Заходняя Дзвіна ў раёне Кургана Бессмяротнасці. Увогуле ў рысе старажытнага горада палачанам сёлета забаронена купацца не толькі ў акваторыі галоўнай воднай артэрыі, але і ў водах абедзвюх берагоў другой мясцовай ракі Палата. Таксама купальшчыкаў могуць аштрафаваць, калі яны акунуцца ў кар'ер па вуліцы Паркавай у райцэнтры. Па рашэнні мясцовых улад для адпачынку на прыродзе вызначылі штучны вадаём у вёсцы Бельчыца Полацкага раёна, дзе таксама можна праводзіць розныя спартыўныя і турыстычныя мерапрыемствы. З дапамогай вадалазаў там было праведзена абследванне дна, ачыстка і добраўпарадкаванне зоны адпачынку. Між тым на ўсіх адведзеных для масавага купання вадаёмах да канца лета двойчы на месяц будзе праводзіцца лабараторная праверка проб вады. А самі адпачываючыя на вадзе павінны звярнуць увагу на захаванні правіл бяспечных паводзін. Яшчэ да пачатку новага масавага купальнага сезона ў рэках і азёрах нашай вобласці ўтапілася 9 чалавек. Як і раней, найбольш распаўсюджанай прычынай трагедый на вадзе з'явілася ўжыванне перад тым, як акунуцца ў водную гладзь, спіртных напояў. Такім чынам загінуў у пойме ракі Віцьба 39-гадовы мужчына, а яшчэ аднаго небараку, які пачаў тапіцца на падпітку ў Дзвіне, выратавалі ад гібелі супрацоўнікі выратавальнай станцыі.

Беларусь

# Кароткі век атлета

■ Станіслаў Раманчук.

**Апошнім часам у сусветным спорце актывізавалася барацьба з допінгам пасля таго, як выявіліся проста неверагодныя памеры яго прымянення ў Расіі.**

Незадоўга перад пачаткам летняй Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра як гром з яснага неба прагучала вестка, што адразу ў трох вядучых беларускіх цяжкаатлетаў выявіліся станоўчыя допінг-пробы на апошнім такім турніры ў Лондане на гульнях 2012 года. На жаль, з дапамогай найноўшых тэхналогій, як паведаміла Міжнародная федэрацыя цяжкай атлетыкі, сляды анабалічных стэроідаў былі выяўлены і ў глыбачанкі Марыны Шкерманковай. Акрамя Алімпіяды пад пытаннем цяпер удзел 26-гадовага бронзавага прызёра Алімпіяды-2012 і ў восеньскім чэмпіянаце свету, бо прыпынены ўдзел у гэтых спартсменаў у розных турнірах і нават трэніроўках. А вось на саму Марыну вельмі разлічваў трэнерскі штаб зборнай Беларусі на прадстаячых спаборніцтвах у Бразіліі. У напружаным рэжыме 9 трэніровак на тыдзень рыхтавалася яна з трэнерам Віктарам Віннікам на базе ў Стайках, падыходзіла да піку сваёй спартыўнай формы і з'яўлялася адным з прэтэндэнтаў на медаль у вагавай катэгорыі да 69 кг. Гэта прыгожая дзяўчына з лёгкасцю гуляе са штангай па 100 і болей кг, прысядае з грузам яшчэ большым. У Лондане з сумай 256 кг у двух практыкаваннях (113+143) яна, нагадаем, прынесла краіне першую медаль. У чорны спіс, дарэчы, патрапілі зараз яшчэ шэраг знакамітых цяжкаатлетаў, а вось зборная Казахстана можа пазбавіцца нават чатырох заваяваных тады залатых медалёў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.06.16 | | | | Пятніца 01.07.16 | | | | Субота 02.07.16 | | | | Нядзеля 03.07.16 | | | | Пан. 04.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +21 | +26 | +23 | +18 | +22 | +27 | +23 | +20 | +24 | +29 | +25 | +21 | +25 | +29 | +15 | +12 | +16 | +20 |
| Ціск | 747 | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 748 | 747 | 745 | 744 | 741 | 746 | 748 | 749 | 748 |
| Вецер м/сек | 2 | 1 | 0 | 0 | 2 | 3 | 3 | 1 | 2 | 2 | 3 | 4 | 5 | 5 | 4 | 7 | 3 | 5 | 4 |
| | В | Ю-З | ШТЛ | ШТЛ | Ю-В | Ю | Ю | З | Ю-В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | Ю-З | С-З | С-З | С-З | С-З |
| Вільготнасць | 94 | 74 | 48 | 78 | 89 | 74 | 50 | 70 | 85 | 69 | 45 | 56 | 75 | 69 | 51 | 79 | 86 | 71 | 55 |

# Аб самым надзённым

## На рынку працоўнай сілы ў Беларусі магчымыя новыя сур'ёзныя катаклізмы

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як ні сумна гэта прызнаваць, але ў бліжэйшы час узровень беспрацоўя ў Беларусі можа перавысіць нават узровень 5 %. Праўда, у нас адначасова імкнуцца рэагаваць на пагаршэнне сітуацыі на рынку працы. Па дадзеных Белстата, у першым квартале па краіне ўдалося працаўладкаваць амаль 16 тысяч чалавек на новых працоўных месцах.**

Звычайна паўсюдна на кантыненце людзі з нецярпеннем чакаюць надыходу лета, самага спрыяльнага часу для адпачынку і масавых водпускаў. А вось у нашай краіне сёлета сітуацыя на рынку працы зноў крыху абвастрылася і невыпадкова пайшлі размовы, што ў бліжэйшы час урад Беларусі разгледзіць магчымасці павышэння памераў дапамогі па беспрацоўі з цяперашніх сціплых 12 долараў у месяц. Спецыялісты айчыннага Міністэрства працы і сацабароны непасрэдна займаліся такімі прапановамі, але не назвалі афіцыйна памеры мяркуемых новых субсідый людзям, страціўшым працу.

Таксама ў Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі, як вядома, прайшоў круглы стол па гэтай тэме, бо прафсаюзныя актывісты лепей іншых ведаюць абстаноўку на канкрэтных працоўных прадпрыемствах. Між тым, сёлета толькі ў красавіку па краіне было звольнена на 20 тысяч рабочых і служачых болей, чым іх працаўладкавана. Трывожна, што зараз пад рызыкай скарачэння штатаў, пагрозай масавых звальненняў знаходзяцца ўсё болей і болей суайчыннікаў, як на буйных гігантах індустрыі, так і на невялікіх заводзіках у глыбінцы. Да прыкладу, сталічны МАЗ сёлета яшчэ на трэць скараціў аб'ёмы прадаж сваіх машын на асноўным рынку збыту ў Расіі. Невыпадкова і сярод аўтазаводцаў ідуць каторы год паступова скарачэнні штату ўжо тысячамі (летась мінус 1344 работнікі).

У правінцыі абстаноўка таксама не ўнушае аптымізму, бо амаль адначасова прыйшлі паведамленні аб пачатку працэдуры банкруцтва ў нас на Віцебшчыне адразу двух заводаў жалезабетонных вырабаў у Оршы і Варапаеве. Аб сваёй эканамічнай недзеяздольнасці заяўляюць усё болей гарадаўтваральных прадпрыемстваў і арганізацый. Вось і ў Глыбоцкім раёне разам прыйшлі да свайго банкруцтва вінзавод у гарпасёлку Падсвілле ( там яшчэ летась збанкрутаваў Плiскі льнозавод) і яго галаўное прадпрыемства – Полацкі вінаробчы завод. Для жыхароў глыбінкі ліквідацыя асноўнага месца заняткаў і дабрабыту – гэта сапраўдны шок, бо паўсюдна стала вельмі няпроста знайсці новую працу.

А для беларускіх улад непрыемны сюрпрыз падрыхтавалі эксперты нават не заходнія, а Еўразійскага банка развіцця ў сувязі з праграмай прадастаўлення нашай краіне крэдыту ў памеры 2 млрд. долараў. Яны прама ўказалі, што ў нашай эканоміцы занята зараз празмерная колькасць працоўных: " наличие значительной избыточной занятости в экономике Беларуси (по оценке управляющего – около 20 %) является одним из ключевых факторов формирования неустойчивых макроэкономических дисбалансов". І гэта сапраўды так, паколькі спецыялісты банка добра ведаюць, ад чаго беларусы маюць "рост цен, давление на обменный курс, платежный баланс и международные резервы, а также дисбаланс между потреблением и инвестициями".

Каб мы атрымоўвалі траншамі далей еўразійскія грошы, Беларусь абавязалася да восені сёлета прыняць нарматыўныя акты па абароне людзей, якія страцяць працу. Эксперты ЕАБР упэўнены, што беспрацоўе сярод беларусаў непазбежна вырасце ўжо ў самы бліжэйшы час. Ды і за апошні год на постсавецкай прасторы беларусы былі, на жаль, першымі па скарачэнні ( на 37,1 %) працоўных рук, найперш у прамысловасці і будаўніцтве, дзе справы найбольш пагоршыліся. Летась многія нават буйныя айчынныя прадпрыемствы перайшлі на працу ў рэжыме няпоўнай занятасці, а колькасць свабодных вакансій пачала зніжацца яшчэ ў 2014 годзе.

Як ні сумна гэта прызнаваць, але ў бліжэйшы час узровень беспрацоўя ў Беларусі можа перавысіць нават узровень 5 %. Праўда, у нас адначасова імкнуцца рэагаваць на пагаршэнне сітуацыі на рынку працы. Па дадзеных Белстата, у першым квартале гэтага года па краіне ўдалося працаўладкаваць амаль 16 тысяч чалавек на створаных новых працоўных месцах. З гэтым заданнем справіліся ўсе вобласці і сталіца, але ў цэлым стрымаць рост беспрацоўя, як адзначаюць спецыялісты, пакуль не атрымоўваецца. Па рашэнні прэзідэнта павінна, нагадаем, быць створана 50 тысяч дадатковых працоўных месцаў. Аднак вельмі няпроста працаўладкаваць беспрацоўных менавіта на новых прадпрыемствах.

Зараз, дарэчы, знайсці сабе працу няпроста і ў сферы малога і сярэдняга бізнесу, адкуль нават па афіцыйных дадзеных сышлі каля 60 тысяч працаўнікоў. У такой сітуацыі ў Беларусі, як і ў большасці цывілізаваных дзяржаў свету, неўзабаве могуць увесці і дадатковую страхоўку работнікаў ад беспрацоўя. Ва ўсялякім разе ў нас за гэта ўжо выступілі прафсаюзы і галіновае міністэрства, якіх падтрымала Міністэрства эканомікі. Ужо адкрыта ў беларускім урадзе гавораць, што многія неэфектыўныя прадпрыемствы і арганізацыі чакае непазбежная працэдура банкруцтва, на рынку працы неўзабаве можа дабавіцца значная колькасць незанятых і да гэтага краіне пара сур'ёзна рыхтавацца.

## Дзень за днём

**У буйных банках з'явяцца спецыяльныя касы для размену банкнот на капейкі. Тэмпы росту беспрацоўя на 37,1 % у Беларусі за год сталі самымі высокімі ў СНД. Нацбанк знізіў стаўку рэфінансавання да 20 % гадавых. Прадажы беларускіх МАЗаў у Расіі ўпалі яшчэ на трэць. Беларусь паспяхова правяла выпрабаванні ракетнай сістэмы залпавага агню "Паланез". За апошнія 4 гады дзяржпрадпрыемствы пазбавіліся 200 тысяч чалавек. З пачатку года цэны выраслі на 7 %, упершыню скарацілася беспрацоўе. Рэзка патаннелі загарадныя катэджы ля Мінска. На Беларускай чыгунцы пакончылі жыццё самагубствам 8 чалавек.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Канцэрн Rheinmetall распрацаваў 130-мм пушку з праграміруемымі снарадамі, якая можа знішчыць самы сучасны ў свеце расійскі танк "Армата" і мадыфікацыі Т-90.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама прадоўжыў яшчэ на год санкцыі супраць уплавовых чыноўнікаў з Беларусі з забаронай ім на ўезд у краіну, блакаваннем рахункаў у амерыканскіх банках.

**Сірыя.** У выніку авіяўдару сіл міжнароднай кааліцыі на чале з ЗША быў забіты на пяты дзень Рамадана лідар экстрэмісцкай "Ісламскай дзяржавы" Абу Бакр аль-Багдадзі.

**Венесуэла.** Нават у сталіцы Каракасе пачасціліся галодныя бунты і сутычкі з паліцыяй, магазіны пустыя, сёлета рост цэн дасягне 720 %, за ежай трэба стаяць паўдня ў чэргах.

**Бельгія.** Генсек НАТО Й. Стлтэнберг зноў заклікаў улады Расіі спыніць агрэсію ў Данбасе, вывесці адтуль свае войскі і ўзбраенне, паважаць суверэнітэт і граніцы Украіны.

**Украіна.** З-за затрымак паступлення сродкаў з дзяржбюджэту РФ прыпынілі будаўніцтва Керчанскага маста, які звяжа акупіраваны Крым з мацерыковай часткай Расіі.

**Расія.** Па патрабаванні Пуціна ў расійскай арміі зноў прайшла на працягу тыдня раптоўная праверка баявой гатоўнасці войск і рэзерву, ваенны псіхоз накрывае краіну.

**Літва.** Міністры абароны краін НАТО вырашылі размясціць у Прыбалтыцы і Польшчы 4 батальёны колькасцю па 1 тысячы войск, нямецкі Бундэсвер будзе камандаваць у краіне.

**ЗША.** Самым масавым забойствам ў гісторыі краіны стаў расстрэл у гей-клубе горада Арландо больш паўсотні чалавек 29-гадовым амерыканцам афганскага паходжання.

**Расія.** Руская праваслаўная царква адмовілася ад удзелу ва Усеправаслаўным саборы на Крыце, падрыхтоўка да якога вялася з 60-х гадоў мінулага стагоддзя, раскол працягваецца.

**Польшча.** Урад краіны вырашыў павысіць палякам з 2017 года мінімальную зарплату да 436 еўра (1920 злотых), яна на 120 еўра будзе перавышаць сярэдні заробак беларусаў.

**Новая Зеландыя.** Паліцыя затрымала рэкордную ў гісторыі краіны партыю з паўтоны наркотыкаў на 315 млн. долараў, атруту знайшлі ў аўто злачынцаў і ў лодцы на пляжы.

**ЗША.** З вялікім поспехам прайшлі паездка па краіне і сустрэчы з чытачамі беларускай пісьменніцы, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святланы Алексіевіч.

**Германія.** Нямецкі тэлеканал ARD у сваім новым фільме абвінаваціў міністра спорту РФ В. Мутко ва ўтойванні факту допінгпробы з адным з расійскіх футбалістаў.

**Францыя.** За крайне агрэсіўныя паводзіны ўлады дэпартавалі з краіны групу расійскіх фанатаў, УЕФА ўмоўна дыскваліфікаваў зборную Расіі па футболе на чэмпіянаце Еўропы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Эксперты Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) далі высокую ацэнку ступені падрыхтоўкі персаналу для ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Гродна.** За 5 апошніх гадоў у горадзе найбольш па Беларусі знізілася на 44 тысячы чалавек выбаршчыкаў на парламенцкіх выбарах, па краіне іх паменела на 100 тысяч.

**Мінск.** Сустрэча тут лідараў РБ і РФ, як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, не прынесла сур'ёзных рашэнняў, не вырашылася пытанне цаны на газ, бакі абмяняліся шпількамі.

**Брэст.** Абласны суд пакараў ураджэнку Лунінецкага раёна 10,5 гадамі турмы за забойства 12 гадоў назад нованароджанага сына, яна пакінула дзіця паміраць у баку для смецця.

**Мінск.** Вядучы даследчык BEROS К. Барнукова папярэдзіла, што шмат неэфектыўных стратных дзяржпрадпрыемстваў краіны чакае банкруцтва, іх нельга ўжо ратаваць.

**Жлобін.** На грані закрыцця апынулася мясцовая птушкафабрыка, заснаваная ў 1931 годзе, там звольнілі 2/3 персаналу, хоць на яе мадэрнізацыю патрацілі 2,2 млн. еўра.

**Гродна.** Экспертам Інстытута нацыянальнай памяці Польшчы не дазволілі правесці раскопкі ля вёскі Калеты, дзе летам 1945 года маглі быць расстраляны саветамі 592 палякі.

**Мінск.** Дырэктар ААТ "Мотавела", экс-мэр сталіцы М. Ладуцька прапанаваў абанкруціць некалі шматтысячны калектыў, у ім засталося 90 работнікаў, канвееру завода пад 60 гадоў.

**Клецк.** Суд раёна прыгаварыў да 4 год калоніі з канфіскацыяй маёмасці былую чыноўніцу Мінаблвыканкама за атрыманне 24 разы хабару ад індывідуальных прадпрымальнікаў.

**Мінск.** На працягу паўмесяца па сталіцы пракацілася хваля самазабойстваў пяці бізнесменаў, яны займаліся гандлем, лагістыкай, іншымі праектамі, але "прагарэлі".

**Брэст.** З мэтай эканоміі сродкаў у вобласці поўнасцю адключылі вулічнае асвятленне у больш чым 1500 населеных пунктах на вясенне-летні перыяд, ноччу адключаюць гарады.

**Мінск.** З пачатку года МАЗ прадаў у Расію толькі 209 сваіх грузавікоў, беларусаў значна абышлі канкурэнты КамАЗ (1256 машын) і ГАЗ, які прадаў 533 свае аўтамабілі.

**Смаргонь.** На падпітку ў вёсцы Солы беспрацоўны 33-гадовы мужчына з-за рэўнасці ноччу ў доме суседа зарэзаў трох чалавек і параніў нажом сваю жонку.

**Вілейка.** 72-гадовая пенсіянерка Ерміняіда Цітова ажыццявіла мару і выйграла ў Маскве папулярную тэлегульню "Поле цудаў", пакарыла усіх беларускасцю і народным гумарам.

**Гродна.** Пасля праверкі Дзяржкантролю за злоўжыванні і фінансавыя махінацыі распачалі 7 крымінальных спраў супраць спартыўных кіраўнікоў рэгіёна, ФК "Нёман", ЦАР па хакеі

*Служба інфармацыі "ВГ" (паЗвесткахінфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Увесь калектыў мясцовай птушкафабрыкі з вядомым брэндам "Ганна" з радасцю сустрэў выхад на свабоду свайго паважанага генеральнага дырэктара Анны Шарэйка.

**Ушачы.** Пасля нападзення на сястру В. Быкава пацярпелую даставілі на лячэнне ў абласную бальніцу, раней такіх інцыдэнтаў у вёсках раёна не было, жылі спакайней.

**Руба.** На новай трасе ў абыход Віцебска ўслед за падземным пераходам у гарпасёлку пачалі ўзводзіць новы мост праз Заходнюю Дзвіну, для яго ўжо пабудавалі апоры.

**Паставы.** Мясцовы лясгас выявіў факты несанкцыянаванага выкіду бытавога смецця ў лясах кітайскімі рабочымі на будаўніцтве ЛЭП ад узводзімай у Астраўцы АЭС.

**Глыбокае.** У І-м квартале сума страт мясцовых мясакамбіната, птушкафабрыкі і МКК склала 140 млрд. рублёў, толькі камбікормавы завод атрымаў 4 млн. рублёў прыбытку.

**Віцебск.** Новым рэктарам тэхналагічнага ўніверсітэта стаў загадчык кафедры, прафесар, доктар тэхнічных навук Андрэй Кузняцоў, у гэтай ВНУ вучацца каля 7 тысяч студэнтаў.

**Лепель.** Гуляючы вечарам ля ваеннага палігона трое дзяцей ва ўзросце 5, 9 і 10 гадоў заблудзіліся ў лесе і ўсю ноч правялі ў гушчары, пакуль іх не знайшлі дарослыя.

**Гарадок.** Да 5 гадоў турмы пагражае жыхару райцэнтра, які пакрыўдзіўся, што яго на падпітку не пусцілі ў райбальніцу, паведаміў пра "пажар", туды прыбылі 11 машын МНС.

**Докшыцы.** Раніцай ля вёскі Юхнаўка 50-гадовы цвярозы вадзіцель з райцэнтра збіў насмерць на дарозе 3-гадовую дзяўчынку, якая раптоўна выбегла на праезную частку.

**Міёры.** З прыкметамі гвалтоўнай смерці на палявой дарозе паблізу возера Горушка знайшлі ва ўласным аўто труп мужчыны, які паехаў вечарам з дому 3 дні назад.

**Браслаў.** Пры спробе нелегальна перасячы беларуска-латвійскую граніцу пагранічнікі затрымалі грамадзяніна Грузіі, яго дэпартуюць з краіны, уезд у Беларусь закрыты на 5 год.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала за пакушэнне на забойства з доказамі віны 35-гадовую гараджанку, якая хацела атравіць выйшаўшага з калоніі мужа, з-за яго 3-пакаёвай кватэры.

**Орша.** У 6 раёнах вобласці ўвялі план "Перахоп", пакуль у Дуброўне не затрымалі 35-гадовага вадзіцеля, які насмерць збіў пенсіянерку ў двары дома і ўцёк з месца здарэння.

**Докшыцы.** Выпускніца Параф'янаўскай СШ, студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ Юля Януковіч стала адным з пераможцаў рэспубліканскага конкурсу "Фота з гісторыяй".

**Глыбокае.** Гарадскі стадыён прызналі лепшым на выніках абласнога агляду-конкурсу сярод спартыўных збудаванняў у раёнах па аздараўленні насельніцтва.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі кошт лекаў можа знізіцца на 2,1%



■ БелаПАН

**Аляксандр Лукашэнка 21 чэрвеня падпісаў указ № 228, якім унёс змены ва ўказ ад 11 жніўня 2005 года № 366 «Аб фармаванні цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку».**

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, дакумент прадугледжвае прывязку дзеючай рэгрэсіўнай шкалы гранічных аптовых і гандлёвых надбавак, што прымяняюцца пры фармаванні цэн на лекавыя сродкі, медыцынскія вырабы і медыцынскую тэхніку, да базавай велічыні замест даляра ЗША.

Прадугледжваецца таксама дыферэнцыяванае памяншэнне гранічных памераў аптовых і гандлёвых надбавак, што прымяняюцца пры фармаванні цэн на медыцынскія тавары, па меры росту адпускных цэн беларускіх вытворцаў (разліковых адпускных цэн імпарцёраў) на дадзеную прадукцыю.

Прадастаўляецца магчымасць рэалізацыі медыцынскіх тавараў ніжэй за адпускную (разліковую адпускную) цану.

Дадзеныя меры, як адзначае прэс-служба, дазволяць знізіць кошт лекавых сродкаў (у сярэднім на 2,1% — ад 2 тыс. да 40 тыс. рублёў за адзінку тавару) «і тым самым павысіць іх цэнавую даступнасць для насельніцтва; павялічыць аб'ём рэалізацыі айчынных медыцынскіх тавараў, захаваўшы пры гэтым бясстратную працу гандлёвай сеткі».

«Акрамя таго, гэта дазволіць выключыць неабгрунтаванае павелічэнне даходаў аптэчнай сеткі пры росце курсаў замежных валют на рынку і скараціць выдаткі бюджэтных сродкаў пры ажыццяўленні дзяржаўных закупак», — гаворыцца ў паведамленні.

# Мінпрацы абяцае павысіць пенсіі да канца года

■ finance.tut.by

**Павышэнне пенсій у Беларусі запланавана на другое паўгоддзе. Аб гэтым перадае БелТА са спасылкай на міністра працы і сацыяльнай абароны Мар'яну Шчоткіну. Памер магчымага павышэння і канкрэтны тэрмін у міністэрстве не назвалі.**

Нагадаем, цяпер сярэдні памер пенсіі па ўзросце ў Беларусі складае 2,9 млн рублёў. Гэта прыкладна 40% ад сярэдняга заробку па краіне. Такія суадносіны ўлады хочуць захаваць на бліжэйшую пяцігодку.

У папярэдні раз працоўныя пенсіі павышаліся ў мінулым годзе: перад прэзідэнцкімі выбарамі яны дадалі ў сярэднім 5% (ці крыху больш за 134 тысячы рублёў).

У канцы снежня, калі ўрад разглядаў бюджэт на 2016 год, было агучана, што на выплату пенсій сыдзе 92,7 трыльёна рублёў (гэта на 5 трыльёнаў больш, чым у 2015 годзе).

Тады Мар'яна Шчоткіна агучыла ў парламенце, што ў 2016 годзе плануецца павышэнне пенсій, у выніку чаго яе сярэдні памер складзе 3 мільёны 80 тысяч рублёў.

Наш каляндар

# Куды знік глыбоцкі “Музей Дзісненскай Зямлі”?

*85 гадоў таму ў Глыбокім быў заснаваны музей, які стаў вынікам плённай працы Глыбоцкага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства.*

■ Уладзімір Скрабатун

Аўтар гэтых радкоў ужо згадваў такую прыкрую акалічнасць, як тое, што шматлікія даведнікі, у тым ліку і Вікіпедыі, цвердзяць нам – “толькі з прыходам савецкай улады, у 1940-м годзе, Глыбокае атрымала статус горада”. Ніхто не падазрае, што Глыбокае мела статус горада ўжо з 1921-га года і надаў яму гэты статус – Юзаф Пілсудскі, начальнік польскай дзяржавы. Нават апусцім той факт, што яшчэ ў радзвілаўскія часы паўднёва-заходняя частка Глыбокага называлася горадам, у якім яшчэ і нейкі магістрат быў...

Для чаго аўтар акцэнтуе ўвагу на факт атрымання Глыбокім статуса горада яшчэ ў 1921-м? Таму што сёння, без ценю сумневу, можна напісаць, накшталт – “і толькі з набыццём незалежнасці Рэспублікі Беларусь упершыню быў створаны Гісторыка-краязнаўчы музей”. Не! Аказваецца, што з 1921 па 1939 гг Глыбокае было самадастатковым горадам з усімі прыналежнымі атрыбутамі: гарадскім магістратам і яго войтам, павятовай управай (староствам) з кіраўніком павету – старастам і, натуральна, сваім музеем.

Музей Дзісненскай Зямлі размяшчаўся ў будынку колішняга кармеліцкага кляштара, гэта сёння – тая руіна, што прылягае да царквы.

Можна сказаць, што Глыбоцкі аддзел Польскага Краязнаўчага Таварыства і Музей Дзісненскай Зямлі, фактычна, было адным цэлым. Апякуном (захавальнікам) глыбоцкага Аддзела быў інжынер Леанард Пякарскі. Аўтар кнігі “Głębokie: (szkic dziejów)”[1] аб гісторыі Глыбокага часоў Рэчы Паспалітай Отан Гедэман выказвае яму ў прадмове вялікую падзяку за дапамогу ў напісанні кнігі і яе выданне коштам краязнаўчага таварыства.

У нас дастаткова матэрыялу для напісання вялікай манаграфіі аб Музеі Дзісненскай Зямлі. Аднак, тое мела б актуальнасць, каб зборы гэтага музея дайшлі да нашых дзён. Аднак, такая тэма можа некалі стаць тэмай дакладу на адной з краязнаўчых канферэнцый у Глыбокім.

Музей,тобок краязнаўчае таварыства, пры якім ён знаходзіўся, займаўся навуковай дзейнасцю, праводзіліся экспедыцыі па Дзісеншчыне. Напрыклад, у Пліскай гміне, з удзелам Л. Пякарскага, была даследаваная група старажытных курганаў у колькасці 80 штук, зробленыя замеры і план, запрошаная археалагічная камісія.

Дзейнасць Музея Дзісненскай Зямлі ўсебакова асвятлялася газетай “Kurjer Wileński”. З публікацый мы ведаем, як музей здабываў экспанаты: купілі насценны гадзіннік з XVII ст работы чанстахоўскіх манахаў, жыхар вёскі Слабада перадаў знойдзены ім скарб з 250 срэбных рыжскіх манет... Музей набыў два пастэльныя партрэты мастака, ураджэнца Дзісеншчыны Цэзарыя Стацэвіча – Аляксандра Дамейкі, маршалка шляхты, і жаночы – Зяновіч, якая паходзіла з роду дэспат Зяновічаў з Бартошына.

Краяўзнаўчы аддзел, пры якім існаваў музей, клапаціўсяабстанепомнікаў даўніны на Дзісеншчыне. Была, напрыклад, адрэстаўраваная калона ў гонар Канстытуцыі 3 траўня 1791 года на цвінтары Копцеўка ў Глыбокім. Краязнаўцы выходзілі да мясцовых уладаў з прапановамі па ахове таго ці іншага гістарычнага аб’екта, асабліва гэта тычылася старажытных курганаў, якія, часам нішчыліся вяскоўцамі. Таварыства ладзіла вандроўкі па Дзісеншчыне для азнаямлення з прыроднымі і гістарычнымі цікавосткамі.

“Kurjer Wileński” пісаў: *Дзякуючы старанням захавальніка інжынера Леанарда Пякарскага музей збірае штораз болей найкаштоўнейшых экспанатаў. Цяпер для фіксацыі багацця, што ўтрымліваецца ў народных песнях, якія могуць знікнуць, прыступілі да збірання звычаёвых народных песняў, а таксама вясельных, жалобных, касцёльных песняў, паданняў і г.д.”*

Куды знік Глыбоцкі Музей Дзісненскай Зямлі? Пытанне рытарычнае? 17 верасня 1939 года змянілася ўлада, нас “вызваліла” Чырвоная Армія. Ладна, былі б гэта мясцовыя людзі, то гіпатэтычна, маглі б прадпрыняць крокі па захаванні музея. Аднак, гэта былі прышлыя з Усходу, малаадукаваныя людзі... Для іх тут усё было чужое! Параспіхвалі па кішэнях манеты, карціны прыхапілі афіцэры... Праўда, пры іншым раскладзе, не перажыў бы ён і нямецкую акупацыю.



Глыбокае, 1930-я гг. Відарыс на царкву ад былой кляшторнай сажалкі. На пярэднім плане – корпус былога кляштара кармелітаў, у якім размяшчалася павятовая ўправа (староства), у гэтым жа будынку месціўся Музей Дзісненскай Зямлі. *Фота Леанарда Рачыцкага.*

1. Выдавец: Wilno : Oddział Polskiego Towarzystwa Krajoznawczego w Głębokim, 1935 (Wilno : Druk. “Kraj”, dawn. “Lux”).

## Вынятکі з газеты “Kurjer Wileński” за 1930-я гг з публікацыямі аб дзейнасці Музея Дзісненскай Зямлі.

**“Насценны гадзіннік ручной работы з XVII ст – у Музей Дзісненскай Зямлі”.**



**Ręcznie wykonany zegar ścienny z XVII w.**
**w Muzeum Ziemi Dziśnieńskiej**

Głębocki oddział Polskiego T-wa Krajoznawczego, dążąc do powiększenia zbiorów Muzeum Ziemi Dziśnieńskiej w Głębokiem, zakupił ostatnio ręcznie wykonany zegar ścienny, pochodzący z początków wieku XVIII. Wedle zebranych wiadomości, zegar ten został wykonany przez zakonników klasztoru częstochowskiego.

Для павелічэння збораў музея Глыбоцкі аддзел Польскага Краязнаўчага Таварыства закупіў насценны гадзіннік ручной работы пачатку XVII ст. Паводле звестак, яго вырабілі манахі Чэнстахоўскага кляштара.

**“250 срэбных манет з 16 стагоддзя выкапана на Дзісеншчыне”**



**250 monet srebrnych z 16 wieku**
**wykopano w Dziśnieńszczyźnie**

Mieszkaniec wsi Słoboda, gm. głębockiej Antoni Maculewicz wykopał na swoim gruncie skarb złożony z monet srebrnych, które w ilości 250 sztuk zdeponowane zostały w muzeum „Ziemi Dziśnieńskiej" przy oddziale Polskiego Towarzystwa Krajoznawczego w Głębokiem. Są to Monety ryskie pochodzące z 16 względnie z początku 17 wieku.

Жыхар вёскі Слабада Антон Мацулевіч выкапаў на сваёй зямлі скарб, які складаўся з 250 рыжскіх срэбных манет. Скарб перададзены на захаванне ў Музей Дзісненскай Зямлі пры Аддзеле Польскага Краязнаўчага Таварыства ў Глыбокім.

**“Гарматнае ядро з 1654-1658 г здабыта з возера ў Глыбокім”.**



**Pocisk armatni z 1654—1658 r.**
**wydobyto z jeziora w Głębokiem**

Z jeziora głębockiego wydobyto pocisk armatni w kształcie kuli o średnicy 25 cm. Kula ta pochodzi najprawdopodobniej z czasów wojen moskiewskich w latach 1654—1658 w tym okresie bowiem niejedna bitwa została stoczona z Moskalami pod Głębokiem.

Kulę umieszczono w Muzeum Ziemi Dziśnieńskiej przy Towarzystwie Krajoznawczym w Głębokiem

З глыбоцкага возера дасталі гарматнае ядро дыяметрам 25 см. Праўдападобна, ядро – з вайны 1654-1658 г, калі пад Глыбокім, неаднойчы, адбываліся бітвы з маскалямі. Ядро перадалі ў Музей Дзісненскай Зямлі пры Краязнаўчым Таварыстве ў Глыбокім.

# Бог- творца сужэнстваў

■ Алена Клімза-Колтан, *тэкст і фота.*

**26 чэрвеня Лучайская парафія адсвяткавала Дзень сям’і. Свята ладзіцца па ініцыятыве ксяндза пробашча Мікалая Ліпскага ў апошнюю нядзелю чэрвеня пяты год запар.**

Старажытныя муры 250-ці гадовай святыні атулілі прыемнай прахаладай ў нядзельны спякотны дзень сабраных вернікаў. Напачатку адбылася канферэнцыя на тэму сям’і. Правёў яе пробашч Лучая. Святар засяродзіў увагу на тым, што Бог-творца сужэнстваў. Ксёндз Мікалай нават прывёў статыстычныя дадзеныя разводаў, на якія ўплываюць такія факты, як шлюб, удзел у нядзельнай святой Імшы, супольная малітва. Сем’і, якія жывуць у блізкім кантакце з Богам, найбольш моцныя і трывалыя.

Падчас Адарацыі была прачытана Літанія да святога Юзафа – апекуна сем’яў і малітва за сем’і. Святочную гамілію святар прысвяціў тэме вернасці ў сямейным жыцці. Казнадзей звярнуў увагу, як важна быць верным словам шлюбнай прысягі, якую маладыя сужонкі прамаўляюць перад Богам.

Згодна з традыцыяй лучайскіх святаў, канцэрты для іх - неад’емная частка. На гэты раз часты і жаданы госць парафіі, знакаміты беларускі бард Зміцер Вайцюшкевіч, падараваў прысутным канцэртную праграму. Звычайна, музыкант загадзя не рыхтуе асаблівыя песні, а спявае тыя, што на душы ў яго пры сустрэчы са слухачамі, або выконвае па замове. Тодар (такі сцэнічны псеўданім мае музыкант), праспяваў творы на вершы сапраўдных зорак беларускай паэзіі: Пятруся Броўкі, Генадзя Бураўкіна, Адама Русака, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Камоцкага, Уладзіміра Някляева, а таксама выканаў “Грузінскую песню” выбітнага расійскага барда Булата Акуджавы.



Бард Зміцер Вайцюшкевіч.

Скончылася канцэртная праграма паланэзам “Развітанне з Радзімай” Міхала Клефаса Агінскага на словы Сяржука Сокалава-Воюша. Музычны твор славутага кампазітара - гэта амаль абавязковая праграма канцэртных праграм. У Лучаі не забываюць пра Агінскіх – фундатараў святыні (дзякуючы ім вёска мае велічны храм) і пра іх знакамітага патомка.

Наступны раз Лучай чакае гасцей 23 ліпеня на фэст святой Ганны. Падчас якога асаблівым чынам будзе адзначацца 250 -годдзе святыні.

# Урачыстасць святога Яна ў Мосары



Біскупа Алега Буткевіча мосарскія вернікі сустрэлі хлебам.

**Адпустовая ўрачыстасць ў парафіі святой Ганны адбылася 25 – 26 чэрвеня.**

■ **Зміцер Лупач**, *Каталіцкі Веснік*

З даўніх часоў на гэты фэст збіралася шмат вернікаў, прычым не толькі з мосарскай парафіі, але з усяго наваколля.

Тацціяна Пундзіс прыехала ў Мосар з Шаркоўшчыны, яна кажа: *"Мы часта сюды прыязджаем, нашы бацькі, дзядулі, бабулі прывучылі нас да гэтага. Мы самі сюды прыязджаем, прывозім сваіх дзяцей, гэта ўжо ў нас традыцыя цэлых пакаленняў, каб не прапускаць гэтыя святы"*.

З ёй згодная і Алена Клімза-Колтан, якая таксама прыехала на фэст з Шаркоўшчыны: *"Я сюды ўпершыню патрапіла на фэст у 1992 годзе. Тады яшчэ свята адзначалі не там, дзе зараз, а каля возера. Ну і пасля таго кожны год з сям'ёй прыязджаем сюды"*.

Урачыстую вячэрнюю Імшу, якая адбылася ў суботу 25 чэрвеня, узначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Напачатку Імшы пробашч парафіі ксёндз Марат Казлоўскі і вернікі ўрачыста прывіталі іерарха. На богаслужэнні прысутнічалі прадстаўнікі раённай улады.

У сваім слове да вернікаў біскуп Алег Буткевіч напачатку нагадаў пра жыццё святога Яна Хрысціцеля, адзначыўшы, што яго нараджэнне было часткай Божага плана па збаўленні чалавецтва ад грахоў.

*"Кожнага з нас Бог прадугледзіў і паставіў на тое месца, дзе мы зараз знаходзімся*, - падкрэсліў іерарх, – *можна задаць сабе пытанне, навошта Богу было патрэбна стварыць чалавека? Бог стварыў чалавека з любові, на свой вобраз і падабенства"*.

*"А калі Бог стварыў нас з любові*, – адзначыў далей біскуп, – *то не для таго, каб над намі здзекавацца"*. Кожны чалавек імкнецца да таго, каб быць шчаслівым, але сапраўднае шчасце можна займець толькі з Богам.

Пасля заканчэння Імшы святкаванне перамясцілася ў прыкасцельны парк, які быў створаны ў свой час па ініцыятыве ксяндза-прэлата Юозаса Булькі.

Там адбылося благаслаўленне агню, ад якога было запаленае вогнішча. А далей адбылася канцэртная праграма, падрыхтаваная супрацоўнікамі аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама.

Глыбачанін Часлаў Берніковіч, які родам з гэтых мясцін, успамінае, што свята ў Мосары праводзілася заўсёды.

*"Раней мы ездзілі на яго на кані. У бацькі была такая вялікая павозка, усе жанчыны з вёскі на яе садзіліся, дзеці - і так ехалі на гэта свята"*.

На свята прыехалі госці не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы. Валянціна Лісоўская, якая нарадзілася ў Мосары, але ўжо чатыры дзясяткі гадоў жыве ў суседняй Латвіі, распавяла: *"Хочацца прыехаць, каб паглядзець, як святкуюць у Беларусі. У Латвіі ёсць сваё падобнае свята, яно называецца Ліга, у нас на яго нават дні непрацоўныя, у вас гэтага няма. А сюды я прыехала яшчэ, каб сустрэцца з аднакласнікамі і аднавяскоўцамі"*.

Вернікі з цеплынёй успамінаюць свайго былога пробашча ксяндза Юозаса Бульку.

Часлаў Берніковіч успамінае: *"Раней на фэсце вогнішча не было, але быў кірмаш. І на ім прадавалі шмат ягад і цукеркаў. І ўся дзея адбывалася перад касцёлам. Гэта ўжо дзякуючы светлай памяці ксяндзу-прэлату Юозасу Бульку працяг свята перайшоў сюды, на гэту пляцоўку"*.

*"Гэта быў чалавек, з усіх людзей чалавек*, - успамінае былога пробашча Антон Альсевіч з вёскі Запаснікі, - *Гэта ён усё гэта прыдумаў. Ён ноччу не спаў, усё думаў, як зрабіць лепш. І мы яму дапамагалі"*.

Свята ў Мосары можа быць добрым прыкладам супрацоўніцтва касцёла і мясцовай улады. Як адзначыла старшыня Глыбоцкага раённага Савета дэпутатаў Галіна Унуковіч, на Глыбоччыне гэта стала ўжо добрай традыцыяй, бо працуем мы для адной мэты – каб квітнела наша Беларусь і каб нашы людзі былі шчаслівымі. А ўсім землякам у гэты святочны дзень яна пажадала *"міру, дабрабыту, каб у людзей ладзіліся ўсе справы, каб людзі працавалі не толькі для сваёй карысці, але і для сваіх блізкіх. А таксама любові, бо нашы сэрцы заўсёды адкрытыя, каб любіць, быць любімымі і дапамагаць адзін аднаму"*.

У тым, што хрысціянства ўвабрала ў сябе традыцыі язычніцтва, святары не бачаць нічога дрэннага.

Пробашч парафіі ксёндз Марат Казлоўскі адзначыў, што святы Ян ахрысціў сваёй асобай паганскае свята. *"Традыцыя святкаваць Купалле сыходзіць сваімі каранямі да язычніцтва. Людзі шукалі папараць-кветку, якая сімвалізавала шчасце. А шчасце, гэта мэта жыцця чалавека, як сёння падкрэсліў у сваім казанні біскуп. А для хрысціяніна шчасце ў тым, каб быць разам з Хрыстом"*.

Гэта адзначыў таксама і біскуп Алег Буткевіч. Па яго словах, хрысціянства надало іншы сэнс шмат якім язычніцкім святам: *"Тут вялікую ролю адыгрывае культура народа, якая звязаная яшчэ з тым язычніцкім веравызнаннем нашых продкаў. Але Бог сваёй прысутнасцю асвячае ўсё тое добрае, што ёсць у чалавеку. Трэба толькі ўмець аддзяляць зерне ад пустазелля. Таму я лічу, што такія святы маюць права на існаванне"*.

А Купалле працягвалася ў Мосары да позняй ночы.









Біскуп Алег Буткевіч баслаўляе агонь, ад якога будзе запаленае вогнішча.

# У Мікалаеве памаліліся за вязняў з Беразвечча, якія загінулі 75 гадоў таму

**У вёсцы Мікалаева Шумілінскага раёна ўшанавалі памяць ахвяр, якія загінулі на Дарозе смерці ад рук сталінскіх катаў 75 гадоў таму.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Пасля нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз нашы землякі гінулі не толькі на франтах ад рук нямецкіх захопнікаў, але часта і ад прадстаўнікоў савецкай улады. Гэтыя факты да нашага часу афіцыйныя ўлады стараюцца замоўчваць або ўспамінаюць іх мімаходзь. Але такія выпадкі былі не выключэннем, а хутчэй за ўсё правілам.

Так здарылася і з вязнямі Беразвецкай турмы, якіх з пачаткам вайны, згодна з планам тагачаснага наркама ўнутраных спраў Лаўрэнція Берыі, павінны былі эвакуяваць на ўсход. Але імклівае наступленне немцаў перашкодзіла ажыццяўленню гэтых планаў: чыгунка была занятая вайсковымі эшалонамі, некаторыя станцыі захопнікі паспелі разбамбіць, цэнтральныя дарогі таксама былі патрэбныя для патрэбаў войска.

Таму было вырашана праводзіць эвакуацыю ў пешым парадку. Вязняў, што ўтрымліваліся ў Беразвецкай турме, 24 чэрвеня выгналі на турэмны двор, пашыхтавалі ў калоны і пагналі пешкі на ўсход да Віцебска.

Некалькі соцень вязняў былі забіты ў ноч з 23 на 24 чэрвеня перад эвакуацыяй. Лёс тых, каго пагналі на ўсход, таксама быў трагічны. Людзям не давалі есці і піць, іх гналі прасёлачнымі дарогамі на ўсход. Шмат каго канваіры забілі па дарозе, у тым ліку і легендарнага доктара Гушчу.

Варта адзначыць, што ў Беразвечы тады ўтрымлівалася шмат вязняў, якім нават не паспелі аб'явіць прысуд. Гэта значыць, нават па тагачасных савецкіх законах яны не былі яшчэ злачынцамі.

У абед 26 ліпеня калона перайшла мост праз Дзвіну. У гэты час над калонай стаў кружыць нямецкі самалёт, які адкрыў агонь па канваірах. Вязняў спачатку палажылі на зямлю, а потым сталі страляць па іх з кулямётаў. З некалькі тысяч чалавек выратавацца ўдалося толькі адзінкам. Як успамінаюць відавочцы таго злачынства, уся дарога была чырвонай ад крыві.

Канваіры загадалі звясці трупы людзей у капцы для бульбы. Калі прыйшлі немцы, целы загінуўшых эксгумавалі і загадалі пахаваць у агульнай магіле на ўскрайку лесу.

Доўгі час гэта магіла стаяла закінутая, але ў 90-х гадах мінулага стагоддзя тут з'явіўся невялікі помнік.

У нядзелю 26 чэрвеня тут адбылася святая Імша ў памяць загінуўшых на Дарозе смерці ў чэрвені 1941 года. На ёй прысутнічалі жыхары Мікалаева і Улы, прадстаўнікі польскай амбасады на чале з амбасадарам Конрадам Паўлікам, святары з Улы, Лёзна, Глыбокага і Віцебска. Богаслужэнне ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Набажэнства ішло адначасова на беларускай і польскай мовах.



У сваім слове да вернікаў біскуп звярнуў увагу на тое, што мы павінны памятаць пра ўсе ахвяры вайны, каб не дапусціць такіх злачынстваў у будучыні. Ён адзначыў, што гэтыя ахвяры павінны аб'яднаць беларускі і польскі народы ў іх імкненні да міру.

Ён таксама адзначыў каштоўнасць свабоды ў чалавечым жыцці. Кожны чалавек нараджаецца свабодным, – адзначыў іерарх, – але, на жаль, знаходзяцца людзі, якія хочуць забраць у чалавека гэту свабоду. Нам усім трэба не дапусціць паўтарэнне такіх трагедый у будучыні, каб невялікая група людзей сваімі рашэннямі прыводзіла да таго, што гінуць мільёны ні ў чым не павінных ахвяр. А каб такое не паўтаралася, трэба памятаць пра гэтыя ахвяры.

Трэба адзначыць, што хаця лічыцца, што ў Мікалаеве пахаваны ў асноўным палякі, гэта ў сваёй большасці жыхары Глыбоччыны, Пастаўшчыны, Шаркоўшчыны, Браслаўшчыны, Мёршчыны... Іх абвінавачвалі ў тым, што яны займалі нейкія пасады пры польскай уладзе, некаторыя былі проста членамі іх сем'яў, кагосьці забралі за тое, што ён ведаў нямецкую мову, а хтосьці наогул патрапіў у гэту калону па ілжываму даносу.

На жаль, наша дзяржава пакуль не імкнецца памятаць пра гэтых людзей. Нават на помніку ў Мікалаеве стаіць надпіс, што гэты помнік людзям, што загінулі 26 чэрвеня 1941 года, але ад чыіх рук загінулі, не ўзгадваецца.

У 90-х гадах мінулага стагоддзя прадстаўнікі польскай грамадскасці хацелі ўсталяваць Памятную дошку ў гонар загінуўшых як ад нямецкіх катаў, так і ад бальшавіцкіх. Тагачасныя ўлады не дазволілі яе ўсталяваць. Думаю, што не дазволілі б і цяперашнія. Таму вісіць яна пакуль толькі ў глыбоцкім касцёле.

Пакуль жа толькі беларускія хрысціяне памятаюць і моляцца за ахвяраў той вайны, прычым усіх ахвяраў. Можа ўжо настаў час, каб ведаць усю праўду пра мінулую вайну?

# Атрутная расліна – баршчэўнік Сасноўскага

**З кожным годам небяспечная расліна баршчэўнік Сасноўскага (трава Геракла) захоплівае ўсё новыя і новыя землі для свайго распаўсюду.**

■ **Станіслаў Скіпар**, *галоўны санітарны ўрач Глыбоцкага раёна*

Гэта гіганцкае пустазелле (дасягае 3-4 метраў у вышыню) расце ўздоўж дарог, палёў, у ярах і нават на дачных участках. Квітнее з ліпеня па жнівень.

Часта ад баршчэўніка пакутуюць дзеці. Зараслі гэтай расліны ім здаюцца ідэальным месцам для гульняў, а полыя ствалы – выдатным сродкам для трубачак і дудак.

Лісце, карані, плады і сок баршчэўніка багатыя рэчывамі (фуракумарынамі), якія павышаюць адчувальнасць скуры да ўльтрафіялетавага выпраменьвання. Сок баршчэўніка пад уздзеяннем сонечных прамянёў выклікае апёкі скурных пакроваў рознай ступені, а пры ўдыханні моцна паражаюцца слізістыя носа, рота і гартані. У гарачы сонечны дзень эфірныя алеі баршчэўніка асабліва атрутныя. Таму скошваць баршчэўнік рэкамендуецца ў пахмурнае надвор'е, выконваючы меры засцярогі (нельга дапускаць адкрытых участкаў цела).

Небяспека заключаецца ў тым, што дакрананне да расліны першы час не выклікае ніякіх непрыемных адчуванняў. Аднак праз некалькі гадзін узнікае сверб, пачырваненне, адчуванне нясцерпнага палення, утвараюцца бурбалкі, з'яўляюцца слабасць, галаўныя болі, млоснасць, дрыжыкі, павышаецца тэмпература.

Пры судотыку неабароненых частак цела з сокам баршчэўніка адразу неабходна прамыць паражоны ўчастак вадой, у выпадку адсутнасці вады – прамакніце яго сурвэткай, не размазваючы, і хутка закрыйце паражонае месца вопраткай або павязкай. Да хаты старайцеся перасоўвацца пераважна ў цені. Там змажце паражоныя месцы густой мыльнай пенай, старанна абмыйце вадой. Накладзіце слабую павязку, сурвэтку з фурацыліна. Боль добра здымаюць сурвэткі з навакаінам. Каб суняць сверб 2-3 дні можна рабіць прымочкі з моцнай чорнай гарбаты, кары дуба, кораня крывасмока. Яны падсушаць апёк, здымуць запаленне.

Для далейшага лячэння апёкаў падыдзе спрэй на аснове абляпіхавага алею. У сур'ёзных выпадках трэба адразу звярнуцца да хірурга. Участкі цела пасля кантакту з сокам ці раслінай неабходна абараняць ад сонечных прамянёў мінімум двое сутак.

Дарослыя павінны расказваць дзецям і падлеткам аб такіх нечаканых уласцівасцях баршчэўніка.



Такі баршчэўнік расце ў Барку каля Глыбокага.
*Фота Валянціна Лупача*

## МНС інфармуе

**на 28. 06.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 352;
Гібель людзей – 43, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

